Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».
12+
14 верасня 2018 года №37 (1220)

# Разводзіць на фільтрах для вады пачалі ад імя водаканала

**Галоўны інжынер Вілейскага водаканала:
– У раёне вада чыстая, і ў фільтрах ніякай патрэбы няма. Я п'ю ваду толькі з-пад крана.**



старонка 17

Фота з архіва «РГ».









**Сям'я забітага ўраджэнца Вілейкі Андрэя Касяка будзе падаваць на апеляцыю**

старонка 3

ISSN 1991–7155
9 771991 715006 37

Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/

# На экафестывалі правядуць акцыі для пешаходаў і раварыстаў

## Праграма фестывалю «Выбірай і рухайся» + «Энергія маладосці»

ВІЛЕЙКА

**Стала вядомая праграма першага экафестывалю «Выбірай і рухайся» ў Вілейцы, які зладзяць сумесна з фестывалем «Энергія маладосці».**

**12:00. Флэшмоб экалагічных відаў транспарту «Выбірай і рухайся».**

Да ўдзелу ў флэшмобе арганізатары запрашаюць усіх уладальнікаў экалагічнага транспарту! Прыязджайце на роварах, роліках, скейтбордах, лангбордах, самакатах, электрасамакатах, гіраскутарах, электрамабілях. Самых яркіх і крэатыўных удзельнікаў чакаюць прызы.

**12:15. Адкрыццё фестывалю, новых велапарковак і карты тайм-лагістыкі.**

Вілейскі велярух набірае абароты, а яго прадстаўнікі актыўна прыцягваюць сродкі для развіцця. Тыдзень мабільнасці – лепшы час для таго, каб падарыць гораду новыя велапаркоўкі і карту тайм-лагістыкі, якая пакажа веласіпедыстам, па якім маршруце і за які час можна дабрацца да пэўных пунктаў у горадзе, лічаць актывісты-аматары роварнага руху ў Вілейцы.

22 верасня ў Вілейцы адкрыюць новыя велапаркоўкі і прадставяць карту тайм-лагістыкі.

**13:00. Паказальныя выступленні і спаборніцтвы па Street Workout.**

Каманда Street Workout in Вілейка зноў выступіць для вас на воркаўт-пляцоўцы ў гарадскім парку і будзе імкнуцца пабіць летнія рэкорды. Але галоўная мэта ўдзельнікаў руху – гэта далучыць моладзь да спорту і здаровага ладу жыцця. Таму мы прапануем разам з імі паўдзельнічаць у спаборніцтвах і прадэманстраваць свае магчымасці.

**19:00. Акцыя сярод веласіпедыстаў і пешаходаў «Стань заўважным!».**

Паўдзельнічаць запрашаюць вілейскіх раварыстаў і пешаходаў. Акцыя пройдзе ад 19:30 да 20:00 у гарадскім парку. Удзельнікі павінны абазначыць сябе, каб стаць заўважнымі ў цёмны час.

**19:30-0:00 Вячэрні моладзевы канцэрт.**

Выступяць гурты **BELAROOTS, RED-KEDS, Станцыя, Awakening Our Memories**. Вілейская каманда – сцэнічны калектыў працы з агнём – **Flame of Life** прапануе харэаграфічныя пастаноўкі, крэатыўныя задумы і акцёрскае выкананне ўсіх прадстаўленых вобразаў.

У праграме магчымыя дапаўненні. Сачыце за навінамі на сайце **rh.by.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Афіша забяспечаная арганізатарамі фестывалю.**



# У нас у парадку газ! А ў вас?




**Тут памяняюць ацяпляльны кацёл, паставяць новы газавы лічыльнік або перанясуць стары ў іншае месца. У філіяла вытворчага ўпраўлення «Маладзечнагаз» спектр магчымасцяў шырокі.**

Арганізацыя працуе ад 1960 года. У 2015-м сюды далучыліся Вілейскі і Лагойскі раёны газазабеспячэння, ад 2017 – Княгінінская газанапаўняльная станцыя.

Спецыялісты «Маладзечнагазу» працуюць над тым, каб у дамы і кватэры жыхароў Маладзечаншчыны, Мядзельшчыны, Вілейшчыны і Лагойшчыны беспярэбойна траплялі прыродны і звадкаваны газ.

### З чым можна звярнуцца ў «Маладзечнагаз»

Што яшчэ робяць у філіяле вытворчага ўпраўлення «Маладзечнагаз»?

- устанаўліваюць і мяняюць газавае абсталяванне
- тэхнічна абслугоўваюць імпартнае і айчыннае абсталяванне
- вырабляюць разнастайныя металічныя дэталі
- устанаўліваюць прыборы для ўліку газу
- робяць мантаж індывідуальных балонных установак
- выдаюць дазвол на правядзенне земляных работ у ахоўнай зоне газаправода, аказваюць паслугі па газіфікацыі
- рэалізуюць звадкаваны газ для запраўкі аўтамабіляў, а таксама ў балонах па 50, 27 і пяць літраў.

Служба заказчыка ў філіяле аказвае комплексную паслугу па газіфікацыі прыватных дамоў па прынцыпе «Адно акно»: кантралююць падрыхтоўку, будаўніцтва, тэхнічны нагляд і прыёмку аб'екта. Гэта робяць прафесійныя спецыялісты, якія адказваюць за бяспеку, безаварыйнасць і беспярэбойную працу газавых сістэм.

Ад 2017 года ў філіяле «Маладзечнагаз» упершыню ў Беларусі рэарганізавалі аварыйна-дыспетчарскую службу ў адзіны дыспетчарскі пункт. Для гэтага ўсе аўтамабілі аздобілі абсталяваннем перадачы дадзеных. Цяпер паміж дыспетчарам і брыгадай, што знаходзіцца ў любым месцы раёна, ёсць беспярэбойная сувязь.

### Першы на Міншчыне Цэнтр абслугоўвання працуе ў Маладзечне

Каб больш якасна абслугоўваць спажыўцоў, 25 лістапада 2016 года «Маладзечнагаз» адкрыў першы ў Мінскай вобласці Цэнтр абслугоўвання насельніцтва па адрасе: **Маладзечна, Валынца, 12-а**. Яго адкрыццё — новы падыход да абслугоўвання кліентаў, прапанова комплекснай паслугі па арганізацыі працы з насельніцтвам.

Цэнтр знаходзіцца ў сучасным будынку, побач з аўта- і чыгуначным вакзалам. Гэта зручна для жыхароў Маладзечанскага раёна. У Цэнтры абслугоўвання

- ставяць на ўлік абанентаў, якія карыстаюцца прыродным і звадкаваным газам, афармляюць асабовыя рахункі, дагаворы на пастаўку газу, пераафармляюць дакументы
- прымаюць наведнікаў, якія маюць пытанні па разліках за газ, кантралююць своечасовую аплату, фіксуюць паказчыкі лічыльнікаў
- прымаюць плацяжы па безнаяўным рахунку праз тэрмінал
- навучаюць, як бяспечна карыстацца газам у побыце
- прымаюць наведнікаў па прынцыпе «Адно акно»
- афармляюць ільготы, выдаюць даведкі за спажыты газ.

Аналагічныя міні-цэнтры працуюць ад 2017 года на базе Мядзельскага, Лагойскага і Вілейскага раёнаў газазабеспячэння.

Спецыялісты цэнтраў параяць, як газіфікаваць свой дом, як устанавіць, замяніць або перанесці газавае абсталяванне ў кватэрах і прыватным сектары, дапамогуць скласці дагавор на любыя работы арганізацыі.

### Падрыхтуйцеся да зімы

Філіял вытворчага ўпраўлення «Маладзечнагаз» нагадвае пра падрыхтоўку газавых катлоў да работы ў ацяпляльны перыяд 2018-2019 года. За няспраўны стан газавыкарыстальнага абсталявання, арганізацыю своечасовага рамонту, замену няспраўнага абсталявання адказваюць жыхары.

Некаторыя забываюць, што тэхабслугоўванне газавага абсталявання — гарантыя яго спраўнасці і беспярэбойнай працы. Каб не застацца без цяпла ў халодны час, неабходна адзін раз на год праводзіць тэхнічнае абслугоўванне.

У «Маладзечнагазе» ёсць звяно па абслугоўванні імпартнага газавыкарыстальнага абсталявання, работнікі якога выконваюць усе віды работ па тэхнічным абслугоўванні і рамонце газавых насценных катлоў імпартнай вытворчасці ARISTON, FERROLI, BERETTA, IMMERGAS, MORA, GEFEST, RIHTERS , BAXI.

Па пытанні тэхнічнага абслугоўвання або рамонце ацяпляльнага катла звяртацца па тэлефонах: **(8-0176) 55-26-81** — у Маладзечне, (8-01771) **2-96-84** — у Вілейцы, (8-01797) **5-08-56** – у Мядзеле, **(8-01774) 5-59-23** – у Лагойску. Ёсць і адзіны нумар для Velcom і МТС: **33-34-204**.

Неабходна таксама перыядычна правяраць дымавыя і вентыляцыйныя каналы, каб папярэдзіць іх абмярзанне. Гаспадары дамоў і кватэр, дзе ёсць такое абсталяванне, абавязаныя выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі. Ён праверыць стан дымавых і вентыляцыйных каналаў і выдасць акт пра іх спраўнасць.

### Новую пліту замест старой усталююць бясплатна

У адпаведнасці з «Правіламі карыстання газам у побыце» спажывец абавязаны замяніць газавае абсталяванне, якому больш за 20 гадоў. «Маладзечнагаз» рэалізуе газавыя пліты для замены па цане завода-вытворцы.

У рамках акцыі вы можаце набыць пліты GEFEST вытворчасці СП ААТ «Брэстгазаапарат» марак ПГ 3200-06, ПГ 6100-03, ПГ 1500 ПГ 1200. Работнікі арганізацыі даставяць і ўсталююць пліту бясплатна. Растэрміноўка да 90 дзён для асобных катэгорый насельніцтва.

Даведкі па тэлефонах: (8-0176) **74-66-51, 74-72-30** — у Маладзечне, (8-01797) **5-09-91, 5-01-41** — у Мядзеле, (8-01771) **2-99-04, 29-9-14** — у Вілейцы, (8-01774) **5-52-68** – у Лагойску.

**222310, г. Маладзечна, вул. Гарадоцкая, 102-б, Тэл./факс:** (8-0176) **55-26-96**
**E-mail:** molgas@tut.by, molgaz@tut.by

УНП 100008077

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.09 | 13.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1162 | **2.1681** |
| Еўра | 2.4481 | **2.5128** |
| Злоты, 10 | 5.6584 | **5.8330** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.0936 | **3.1129** |
| Грыўня, 100 | 7.4501 | **7.7253** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **5.09** | **12.09** |
| Еўра | 2.4300/2.4550 | **5.5080/2.5350** |
| Долар ЗША | 2.1000/2.1300 | **2.1630/2.1830/** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **5.09** | **12.09** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,60 | **3,98** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 5,85 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,60** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 1,90 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,20 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,45 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,30** |
| Агуркі, 1 кг | 0,90 | **1,35** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,60 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | – | **2,30** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 0,70 | **0,85** |
| Перац, 1 кг | 1,50 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,50 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,00 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **2,00** |
| Дыня, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Ківі, 1 кг | 2,90 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 5,60 | **4,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,60 | **4,50** |
| Персікі, 1 кг | 2,90 | **1,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,70 | **0,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## У возеры на Вілейшчыне загінуў аматар падводнай рыбалкі

**ВІЛЕЙКА**

Трагедыя здарылася шостага верасня. Пра яе выратавальнікам паведамілі з РАУС каля дзевяці вечара.

Як распавялі ў Вілейскай выратавальнай станцыі, два аматары падводнай рыбалкі ў спецыяльным адзенні і масках нырали ў возеры каля вёскі Кавалі.

У нейкі момант адзін з іх перастаў з'яўляцца на паверхні. Магчыма, мужчына заблытаўся ў падводных раслінах.

Вілейскі РАСК праводзіць праверку здарэння.

Загінулы – жыхар Вілейкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Крэве перакуліўся самаробны трактар. Кіроўца загінуў

**СМАРГОНЬ**

7 верасня перакуліўся самаробны незарэгістраваны трактар у Крэве.

Вясковец на самаробным трактары перавярнуўся на роўнай дарозе. Кіроўца памёр на месцы. Яго жонку шпіталізавалі.

Па папярэдняй інфармацыі, кіроўца забраў жонку з работы і ехаў у бок дома. Па нейкай прычыне трактар заматляў на праезнай частцы і пасля выезду на сустрэчную вярталася ў сваю палосу. Пасля гэтага трактар стаў на правыя колы і паваліўся на ўзбочыну.

**Паводле ДАІ Гродзенскай вобласці.**

## Харчовы камбінат у Маладзечне застаўся без халадзільнай установкі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Падчас праверкі знайшлі парушэнні заканадаўства, якія ствараюць пагрозу жыццю і здароўю насельніцтва, навакольнаму асяроддзю.

Дзяржпрамнагляд забараніў эксплуатацыю аміячнай халадзільнай установкі на харчовым камбінаце ў Маладзечне. Па рашэнні эканамічнага суда Мінскай вобласці яна не будзе працаваць да 4 сакавіка 2019 года, сказалі ў прэс-службе дэпартамента.

Дзяржаўныя інспектары падчас праверкі стану прамысловай бяспекі пры эксплуатацыі аміячнай халадзільнай установкі ў ПУП «Маладзечанскі харчовы камбінат» выявілі парушэнні заканадаўства, якія ствараюць пагрозу жыццю і здароўю насельніцтва, навакольнаму асяроддзю.

Дзяржпрамнагляд прапанаваў спыніць (забараніць) дзейнасць аміячнай халадзільнай установкі, аднак кіраўнік прадпрыемства гэта праігнараваў.

Дэпартаменту давялося звярнуцца ў суд, які прызнаў абгрунтаванымі доказы Дзяржпрамнагляду.

Рашэннем суда праца аміячнай халадзільнай установкі прыпыненая да 4 сакавіка 2019 года. Таксама суд вырашыў спагнаць з прадпрыемства ў даход рэспубліканскага бюджэту судовыя выдаткі.

**Паводле МЛЫН.BY.**

## Маладзечанка хацела вырваць кашалёк з рук мужчыны

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося ў Маладзечне, на вуліцы Якуба Коласа, 6 верасня каля 11 вечара.

Раней судзімая 45-гадовая жыхарка горада хацела адкрыта вырваць кашалёк з рук 24-гадовага мужчыны. У кашальку было 70 долараў і пяць рублёў.

Аднак той пачаў супраціўляцца, і крадзеж не атрымаўся.

Жанчыну затрымалі.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## ДТЗ з-за туману. Выратавальнікі дэблакавалі кіроўцу з машыны

**МЯДЗЕЛ**

Дарожнае здарэнне адбылося раніцай 11 верасня каля вёскі Пасынкі Нарачанскага сельсавета. З-за густога туману бачнасць на дарозе была не большая за сто метраў, распавяла «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага ГРАНС **Ірына Карапецян**.

Легкавая машына пайшла на абгон і «лоб у лоб» сутыкнулася з мікрааўтобусам. Кіроўца легкавога аўтамабіля аказаўся заблакаваным у машыне.

Мядзельскія выратавальнікі дасталі яго і перадалі медыкам. У мужчыны – пераломы грудной клеткі і галёнкі, шматлікія удары.

Кіроўцу мікраўтобуса медыцынская дапамога не спатрэбілася.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае роднымі Андрэя Касяка.

Андрэй Касяк.

# Сям'я забітага ўраджэнца Вілейкі Андрэя Касяка будзе падаваць на апеляцыю

**ВІЛЕЙКА**

**Мінскі гарадскі суд абвясціў абвінаваўчы прысуд 29-гадоваму Расціславу Светчыкаву і 41-гадоваму ўладальніку пэйнтбольнага клуба Аляксею Сінькевічу – 23 і 24 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Па версіі следства, у лістападзе 2016 года яны забілі менеджара **Андрэя Касяка** з-за 50 тысяч долараў. Сям'я забітага ўраджэнца Вілейкі прыгаворам незадаволеная, расказала «Рэгіянальнай газеце» сястра Андрэя **Людміла Міхаленя**.

Па словах Людмілы, суд прызнаў Светчыкава і Сінькевіча вінаватымі па ўсіх артыкулах, якія ім прад'яўлялі: забойства групай асоб, выкраданне чалавека ў карыслівых мэтах, вымагальніцтва, выкраданне асабістых дакументаў, разбой, наўмыснае знішчэнне маёмасці, падробка дакументаў і інш.

Падсудным прызначылі такія тэрміны, пра якія прасіў пракурор. А ў спрэчках адвакаты настойвалі на тым, што Светчыкаў і Сінькевіч невінаватыя ні па адным артыкуле.

– У судзе яны так і не прызналіся, дзе схавалі цела. Чаму? Магчыма, яны нешта жахлівае зрабілі з ім. А можа, там пахаваны не адзін забіты бізнесмен, – дзеліцца меркаваннямі Людміла.

**На думку сястры Андрэя, Светчыкаў і Сінькевіч абралі такую пазіцыю: валіць віну адзін на аднаго і не прызнавацца, дзе цела.**

Родныя забітага бізнесмена пісалі пісьмо Аляксандру Лукашэнку з просьбай паспрыяць знайсці цела, аднак пакуль, на іх думку, атрымліваюць толькі адпіскі.

Людміла расказала «Рэгіянальнай газеце», што ў сваіх пошуках сям'я не спыніцца: пададуць на апеляцыю, будуць шукаць цела, пісаць ва ўсе інстанцыі, у тым ліку і ў Адміністрацыю Прэзідэнта.

Прыгавор не ўступіў у законную сілу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У Княгініне з-за кароткага замыкання згарэў хлеў

**МЯДЗЕЛ**

**Каля пяці раніцы 7 верасня мядзельскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у аграгарадку Княгінін.**

Калі спецыялісты прыехалі, убачылі, што адкрытым полымем гарэў хлеў. Будынак быў цагляны, электрыфікаваны.

У выніку пажару згарэў увесь дах, цалкам выгаралі некаторыя памяшканні ў хляве. Прычына пажару – кароткае замыканне з-за няспраўнасці праводкі. Хлеў належаў 80-гадовай пенсіянерцы.

– Сёлета ў сакавіку нашы спецыялісты хадзілі па дамах, правяралі стан праводкі, выкананне правілаў пажарнай бяспекі. І менавіта на гэтым двары дзверы зачынілі літаральна «перад носам» у выратавальнікаў, – расказала «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага ГРАНС **Ірына Карапецян**. – Калі б нашы спецыялісты праверылі праводку ў хляве, магчыма, пажару б не адбылося.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «Маладзечнамэбля» – унікальны шанец купіць жывую мэблю па зніжанай цане

**Купіць мэблю з масіву – мара любой сям'і. Перавагі натуральнага дрэва відавочныя. Толькі паставіш такую шафу, канапу, ложак ці стол у пакой – і адразу па доме плыве прыемны пах жывога дрэва.**



Гасціная «Вероніка»: камод з васьмю скрынямі замест 1101 рубля каштуе 764.

Аднак высокая якасць каштуе адпаведна. І хаця многія разумеюць, што сапраўднае дрэва не параўнаць ні з чым, чакаюць ніжэйшых цэн. Нарэшце гэта жаданне здзейснілася! «Маладзечнамэбля» збіраецца абнавіць асартымент мэблі ў магазінах, таму прапануе некаторыя мадэлі па адпускной цане. Мінус 30% – такога зніжэння кошту яшчэ не бывала.

**Не чакайце – лепшай прапановы не будзе. Упэўніцеся самі.**

Крэсла з серыі «Рафаэль» з абіўкай у раскошныя блакітныя кветкі з 857 рублёў знізілі да 449. Калі ў вас ужо ёсць аднатонная канапа халоднага адцення – яе выдатна дапоўніць такое крэсла. Цяпер асабліва актуальна, калі ў інтэр'еры сумяшчаюцца элементы з розных камплектаў і розных колераў. Таму менавіта такое надзвычай утульнае крэсла стане выдатным акцэнтам і любімым месцам для ўсіх членаў сям'і.

Канапы і крэслы з серыі «Версаль» – гэта шыкоўная абіўка ў вытанчаным драўляным афармленні. Такі набор не толькі ўтульны, але і надзвычай прэзентабельны. Калі вам важна, як выглядае ваша мэбля, не сумнявайцеся. «Версаль» – адна з самых рэспектабельных прапаноў. Сярод варыянтаў ёсць залаціста-карычневае колеравае рашэнне і карычнева-фіялетавае. Калі раней канапу з крэслам прадавалі за 3900 рублёў, то цяпер – за 3182.

Кампанія прапануе па зніжанай цане і набор для гасцінай. Камплект «Сабрына» ў актуальным колеры «графіт» – гэта гарманічнае спалучэнне дызайну без лішніх дэталяў і стылю. Вітрына замест 594 рублёў каштуе 380,76, тумба пад тэлевізар каштавала 573,60, цяпер – 478 рублёў, а палічка з 89,80 рублёў знізілася да 74,83.

Вуглавая прыхожая «Карына» ў колеры «Цёмны арэх» замест 1929 рублёў каштуе 1285,05. У набор уваходзяць тры злучаныя шафы – з люстэркам, глухімі дзвярыма і адкрытая з паліцамі і кручкамі.

Аматары сучаснага стылю ацэняць праграму «Вероніка». Гэта мэбля ідэальна ўпішацца ў скандынаўскі і сучасны інтэр'еры. Прыродныя колеравыя рашэнні і лёгкі дызайн будуць на 100% функцыянальнымі і зусім не стамляючымі.

Арыгінальны часопісны столік з нішамі замест 350 рублёў аддаюць за 243. Камод з васьмю скрынямі з 1101 рубля знізілі да 764, а шафу аддаюць не за 687 рублёў, а за 477.

Уся мэбля па зніжаных цэнах – гэта гарантаваны ідэальны стан, абсалютная якасць, экалагічнасць і прэзентабельнасць. Гэта рэдкі выпадак – купіць мэблю з натуральнага дрэва па настолькі зніжанай цане. Не губляйце ўнікальны шанец!

**Плаціце так, як вам зручна!**

Кампанія прапануе некалькі варыянтаў аплаты. Можна купіць як адразу, так і ў растэрміноўку або крэдыт.

Для афармлення дакументаў захапіце з сабой пашпарт, даведку з месца работы аб даходзе за апошнія паўгода. Таксама спатрэбіцца гарантыйны ліст ад арганізацыі або паручальнік з даведкай аб даходзе за апошнія тры месяцы.

**Запрашаем вас выбраць мэблю**

Адрасы магазінаў ЗАТ «Маладзечнамэбля» ў Маладзечне:

**Вул. Металістаў, 1.** У асартыменце кухні, прыхожыя, мяккая мэбля. Тэлефоны: (8-0176) **77-61-76,** (8-033) **665-18-81** (МТС)

**Вул. Лібава-Роменская, 83-а.** У асартыменце спальні, гасціныя, сталовыя, мяккая мэбля. Тэлефоны: (8-0176) **74-65-62,** (8-044) **708-51-81** (Вэлком).

УНП 600203065



Набор мяккай мэблі «Бостан» прадаецца за 2022 рублі. тканіна абіўкі «сляза Алаха» пасуе да інтэр'ераў ва ўсходнім стылі.


Канапа і крэсла з камплекта «Версаль» цяпер каштуюць не 3900 рублёў, а ўсяго 3182. Можна абраць карычнева-залацістую абіўку ці карычнева-фіялетавую.

## Сустракай восень з «Рэгіянальнай газетай»!

**Падпісацца на «РГ» можна:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**

✓ **праз паштальёна**

✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска)*.



# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Луаз-969 М, 1991 г.в., добры стан, зняты з уліку, прабег 25 000 км. Т. (8-044) 4703638.

• Пежо 306, 1,9 л, 1999 г.в. Т. (8-029) 3068457.*

• УАЗ 452 Д, 1985 г.в., торг. Т. МТС (8-029) 2279256.*

• Вакуум тармазны ГАЗ-53 новы, бак паліўны МАЗ ёмістасцю 180 літраў, 3-фазны новы электрарухавік 0,8 кВт, 2740 аб. Т. (8-029)7589705.*

### КУПЛЮ

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 9928406.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 9961242.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў п. Чысць, пл. 42,3. Т. (8-029) 3802974.*

• 1-пакаёвая кватэра, 3/5 пав., цэгла, цэнтр. Т. (8-029) 5075451.

• 2-пакаёвая кватэра ў Валожыне па вул. Савецкай, 66 кв.м, 5 паверх, 2012 г.п, ацяпленне аўтаномнае. Т. (8-033) 3709333.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-павярховы дом жылы ў цэнтры Вілейкі. Укамплектаваны мэбляй, трэнажорны комплекс «Кетлер». 3 гаражы. Жылая плошча 170 кв. м. Цана дагаворная. Тэрмінова. Т. МТС (8-029) 5058543.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Чайкоўскага, 5 паверх, 79,9 кв. м. Т. (8-029) 1171160.*

• Гараж у ГК-32 (Фестывальны) у Мададзечне, падвал на ўвесь гараж, цана 10 тысяч рублёў, торг. Т. (8-029) 8742661.*

• Дача СТ «Магістраль», 10 км ад Маладзечна, участак 9 сотак, дом драўляны плошчай 48 кв.м, выдатны стан. 18 000 рублёў. Т. МТС (8-029) 7514987 Таццяна, (8-029) 2649080 Дзмітрый.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі у в. Сінькі Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 6725820.

• Дом у а.г. Ілья. Т. МТС (8-029) 8924764. Анатоль.*

• Дом, недалёка ад Вілейкі. Т. (8-029) 7005297.

• Катэдж мансардны ў Смаргоні, 225 кв. м, 2013 г. пабудовы, блок, дызайнерскі рамонт, цэнтральнае водазабеспячэнне і каналізацыя, добраўпарадкаваная тэрыторыя. Дадатковыя пабудовы: гараж з падвалам, лазня. Дорага. (8-029) 6154013.*

• Пакой у 2-пакаёвай кватэры каля чыгункі ў Вілейцы. Т. (8-029) 9651215.

### НАЙМУ

• Сям'я нойме 3-пакаёвую кватэру з мэбляй. Т. (8-029) 6174216, (8-029) 5592873.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-пагрузчык: планіроўка, зняцце грунту, прыборка смецця, снегу і г. д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. (8-029) 6926052.*

• Міні-экскаватар. Экскаватар-пагрузчык (бур). Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыенту. Біялогія. Хімія. Індывідуальны падыход. Досвед працы. Высокі вынік. Тэлефанаваць увечары. Т. (8-029) 3275496.*

• Антэны спадарожнікавыя, лічбавае ТБ, усе віды паслуг. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Арганізацыя выканае любыя віды электрамантажных работ для фізічных і юрыдычных асоб. Зробім электрафізічныя вымярэнні. ТАА «Вілейскае аграпрамэнерга» УНП 600010743. Т. (8-01771) 35135.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вонкавая (наружная) рэклама: шыльдачкі на дом – 10 руб., куток пакупніка – 15 руб. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8. Т. (8-029) 6631595.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт ЖК-тэлевізараў, ноўтбукаў, спадарожнікавых антэн, выезд майстра. ІП Такмакоў Г.У. УНП 692022633. Т. (8-029) 5613972.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне пнёў – **СКІДКА**. **ВЫВАЗ** галля і драўніны. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• **УЦЯПЛЕННЕ**, аддзелка **ФАСАДА** дома, балконаў. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. ІП Сергіенка Л.У. УНП 591805547. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла (кирпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Парасяты в'етнамскія 2 месяцы. Т. (8-029) 2680991.

• Распродаж парасят. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

• Свінні жывой вагой 120-160 кг. Т. (8-029) 8771541, (8-029) 2523254.

**Іншае**

• Абсталяванне гандлёвае б/у і халадзільнае, сценка з агрэгатам пад вынасны холад і іншае. ІП Заянчкоўскі А. С. УНП 600370490 Т. (8-029) 6278076.*

• Бульба буйная і дробная. Т. (8-029) 9329484, (8-01771) 37542.

• Журавіны за 2,50 рубля за літр у Вілейцы. Т. (8-033) 3506906.*

• Конныя калёсы (тэлега), сена. Т. (8-01771) 33516.

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029) 8552646.*

• Ціскі. Т. (8-029) 2375721.*

• Яблыкі, апад. Т. (8-029) 5694135.

### АДДАМ

• АДДАМ МІЛАЕ РУДОЕ КАЦЯНЯ Ў ДОБРЫЯ РУКІ. Т. (8-025) 5359741.*

• АДДАМ ДВУХ ПРЫГОЖЫХ І ЛАСКАВЫХ КОЦІКАЎ У ДОБРЫЯ РУКІ. Т. (8-029) 6095700. ПАВЕЛ.*

### ІНШАЕ

• **АЙКІДО. ШКОЛА АЙКІДО АБ'ЯЎЛЯЕ ПРА НАБОР НА 2018-2019 ВУЧЭБНЫ ГОД ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ПАДЛЕТКАЎ 2003 -2013 г.н. ЗАНЯТКІ ПРАВОДЗЯЦЦА Ў ГІМНАЗІЯХ г. МАЛАДЗЕЧНА №10 і №3, СШ №14 і №9). ІП ВАЛАСКОВІЧ А.А. УНП 691883517. Т. (8-029) 2610506, (8-029) 6375326 HTTP://AIKIMOLO.BY VK.COM/CLUB57627625**

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Прыватнаму прадпрыемству патрабуецца рабочы па ўстройванні налiўной падлогі. Т. (8-044) 7837843.*

• Фасадчыкі, страхары (кровельщики) шыфернага і мяккага даху. Т. (8-029) 6257070.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Брыгада страхароў (кровельщиков) шукае работу любой складанасці. Т. (8-033) 3898300 (МТС, Велком 8-029).*

• Дапамагу пілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*

# Што трэба набыць школьніку

МАЛАДЗЕЧНА

**На пачатку верасня чэргі ў кніжных крамах амаль звычайная з'ява. Мы вырашылі параўнаць цэны на атласы, сшыткі і контурныя карты для розных класаў у краме і на базары.**

Да прыкладу, каб сабраць дзесяцікласніка ў кніжнай краме, трэба набыць атлас і контурныя карты па геаграфіі, сшыткі для лабараторных і практычных работ па біялогіі, фізіцы і хіміі, рабочы сшытак па англійскай мове. Агульны кошт – 25 рублёў 56 капеек.

### Якія цэны на базары

На базары атлас «Чалавек і свет» можна набыць за 4,60.

Карты па геаграфіі для шостага класа прапануюць за 3,50, для сёмага – па 4,50. Для восьмага класа пакуль няма. Дзевяцікласнікі могуць набыць карты па 4,50. Вучні дзясятага і адзінаццатага – на рубель танней.

Каляровы і якасны атлас па геаграфіі для сямікласніка абыдзецца амаль у восем рублёў, а вось для васьмікласнікаў таксама яшчэ няма. У дзявятым сёлета школьнікі будуць карыстацца атласам мінулага года – для 8-9 класаў. Як і для адзінаццацікласнікаў, ён каштуе шэсць рублёў. Дзесяцікласнікі разабралі на базары атласы для свайго ўзросту.

Рабочыя сшыткі для ўсіх класаў па геаграфіі – 3,90.

Танней абыдуцца сшыткі для лабараторных і практычных работ па хіміі, фізіцы і біялогіі. Усе класы – 2,20. Рабочыя сшыткі па біялогіі – 3,50.

Рабочыя сшыткі для ўсіх класаў па інфарматыцы – 3,90.

Тым, хто вывучае англійскую, прапануюць першую частку рабочых сшыткаў па 4,90. Для дзевяці-, дзесяці- і адзінаццацікласнікаў каштуе такі сшытак – 8,50. Ён складаецца з дзвюх частак.

Для «немцаў» сшыткі для чацвертага класа – 4,50, астатнія – на рубель танней.

### Якія цэны ў краме

Для параўнання цэнаў мы прыйшлі ў кніжную краму.

Атлас «Чалавек і свет» каштуе каля пяці рублёў. Контурныя карты – за 3,34 для пятага і 2,84 для чацвертага класаў. На базары яны па тры рублі.

Атлас па геаграфіі для шасцікласнікаў можна набыць за 5,31, самы дарагі – для сёмага класа – 7,02. Цана на контурныя карты па гэтай дысцыпліне пачынаецца ад 3,33. Для васьмікласнікаў і тут няма.

Сшыткі для лабараторных і практычных работ па фізіцы і хіміі для ўсіх класаў прапаноўваюць за 2,06. Гэта на 14 капеек танней, чым на базары. Па біялогіі цана мяняецца ў залежнасці ад класа. Самыя дарагія для дзясятага і адзінаццатага класаў – 3,63.

Рабочыя сшыткі па інфарматыцы для ўсіх класаў можна набыць за 4,04 – на 14 капеек даражэй, чым на базары.

За 2,49 прапаноўваюць рабочыя сшыткі па рускай мове, за 3,11 – па беларускай.

Для «англічан» сшыткі каштуюць ад 4,00 да 8,80 – у залежнасці ад колькасці частак, якая розная для кожнага класа.

Сшыткі па нямецкай мове для васьмікласнікаў можна набыць за 3,11. Для астатніх класаў – за 4,67. На базары – па 3,50 для ўсіх класаў, акрамя чацвертага.

Тавар можа быць танней і даражэй у залежнасці ад таго, дзе яго набываць. Зэканоміць можна, калі купляць і на базары, і ў краме, параўноўваючы цэны.

**Таццяна КАСЬЯН.**



Фота Зоі ХРЫЦКАЙ.

Чарга ў кніжнай краме.

| | ЦАНА НА БАЗАРЫ | ЦАНА Ў КРАМЕ |
|---|---|---|
| Атлас «Чалавек і свет» | Для ўсіх класаў – 4,60 | 4 клас – 4,69<br>5 клас – 5,01 |
| Контурныя карты «Чалавек і свет» | Для ўсіх класаў – 3,00 | 4 клас – 2,84<br>5 клас – 3,34 |
| Атлас па геаграфіі | 7 клас – амаль 8 рублёў<br>8-9 клас – 6,00<br>11 клас – 6,00 | 6 клас – 5,31<br>7 клас – 7,02<br>8-9 клас – 6,62<br>10 клас – 5,28 |
| Контурныя карты па геаграфіі | 6 клас – 3,50<br>7 клас – 4,50<br>8 клас – няма тыражу<br>9 клас – 4,50<br>10 клас – 3,50<br>11 клас – 3,50 | 6 клас – 3,39<br>8 клас – няма тыражу<br>10 клас – 3,73<br>11 клас – 3,33 |
| Сшытак для лабараторных і практычных работ па фізіцы | Для ўсіх класаў – 2,20 | Для ўсіх класаў – 2,06 |
| Сшытак для лабараторных і практычных работ па хіміі | Для ўсіх класаў – 2,20 | Для ўсіх класаў – 2,06 |
| Сшытак для лабараторных і практычных работ па біялогіі | Для ўсіх класаў – 2,20 | 6 клас – 2,06<br>7-8 клас – 2,54<br>9-10 клас – 3,63 |
| Рабочы сшытак па інфарматыцы | Для ўсіх класаў – 3,90 | Для ўсіх класаў – 4,04 |
| Рабочы сшытак па англійскай мове | Для ўсіх класаў да дзявятага – 4,90 (1 частка)<br>9-11 клас – 8,50 (за дзве часткі) | 3 клас – 4,67<br>4 клас – 4,04 (1 частка) і 4,04 (2 частка)<br>5 клас – 4,04<br>6-8 клас – 4,67<br>9-10 клас – 8,80 (за дзве часткі) |
| Рабочы сшытак па нямецкай мове | 4 клас – 4,50<br>Для астатніх класаў – 3,50 | 5-7 клас – 4,67<br>8 клас – 3,11<br>9-10 клас – 4,67 |




Фота Таццяны КАСЬЯН.

Контурныя карты па геаграфіі і рабочы сшытак па англійскай мове для сямікласнікаў.

ТЭМА НУМАРА

# Разводзіць на фільтрах для вады пачалі ад імя водаканала

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім раёне прадаўцы пачалі прапаноўваць фільтры для вады, называючы сябе работнікамі водаканала. Галоўны інжынер Вілейскага водаканала пapярэджвае: работнікі іх установы фільтры ніколі не прапаноўвалі.**



Галоўны інжынер Вілейскага водаканала запэўнівае, што ў Вілейскім раёне няма патрэбы набываць фільтры – вада паступае ў дамы чыстая.

Каб расказаць пра выпадак махлярства, у рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты» звярнулася жыхарка Вілейкі **Аляксандра**. Жанчына расказвае, што з махлярамі сутыкнулася знаёмая бабуля. Па ёй адразу было відаць, што нешта здарылася:

– Калі спыталася, то яна адразу расплакалася і расказала, што на старасці адчула поўную безабароннасць, страціла давер да людзей і веру ў справядлівасць.

### «50% скідкі і льготы на 12 год»

Прычынай падаўленасці стала наступная сітуацыя. У дом да бабулі прыйшла маладая дзяўчына. Махнула перад вачыма пасведчаннем і паведаміла, што яе накіраваў Вілейскі водаканал, каб усталяваць фільтры для ачысткі вады.

Папрасіла прынесці пенсійнае пасведчанне і сказала, што бабуля атрымае скідку ў 50%. І настойліва дадавала, што такіх у населеным пункце адзінкі. «Вам вельмі пашанцавала, трэба хутка пагаджацца, таму што могуць знайсціся іншыя ахвотныя. А ўсталяваць фільтры ўсё роўна спатрэбіцца ўсім жыхарам», – запэўнівала бабулю дзяўчына.

Перакanала пажылога чалавека, што заплаціць давядзецца ўсяго 22 рублі – і чыстая вада ў доме будзе заўсёды. Бабуля з задавальненнем пагадзілася. Тут жа з'явіўся майстар і пачаў мантаваць фільтр. Хвілін дзесяць – і ўсё зроблена. А дзяўчына пачала паказваць, дзе падпісаць дакументы. Бабуля расчытаць напісанае не магла, і ўсё падпісала.

**Прыйшоў час плаціць. Бабуля прынесла 22 рублі. А дзяўчына кажа, што тая заблыталася ў новых грашах, і ёй называлі не 22 рублі, а 220.**

Бабуля адказала, што на такія грошы ніколі б не пагадзілася. А ў адказ пачула, што, паводле дагавору, яна будзе атрымліваць 50% ільготы на ваду цягам 12 год.

Муж бабулі вымавіў «Не пражывём мы столькі», а ў адказ пачулі, што льготамі будуць карыстацца дзеці і ўнукі. Манёўр спрацаваў, і бабуля аддала апошнія грошы.

### Давядзецца плаціць за зменныя блокі

На наступны дзень бабуля расчытала дакументы і не знайшла нічога пра льготы. Пазваніла ў водаканал – аказалася, нікога яны з фільтрамі не пасылалі.

**Калі прыехаў унук і прачытаў дагавор, аказалася, што абслугоўванне не бясплатнае, за зменныя блокі для фільтра давядзецца плаціць – каля 90 рублёў за штуку.**

Па нумарах, якія ў яе былі, ніхто не адказваў.

– У міліцыі бабулі адказалі, што такіх падманутых шмат. А даказаць іх віну складана, таму што дакументы ў парадку. Падманам разводзяць самых безабаронных! Часам не саромеюцца забраць усё да капейкі, – абураецца Аляксандра.

### Галоўны інжынер водаканала: «У Вілейскім раёне вада чыстая»

У Вілейскім райаддзеле міліцыі «РГ» пацвердзілі, што ў іх былі звароты са скаргамі на прадаўцоў фільтраў для вады.

Галоўны інжынер Вілейскага водаканала **Аляксандр Мордас** запэўніў, што прадаўцы фільтраў не маюць ніякага дачынення да іх арганізацыі.

– Гэта не першая хваля, калі прапануюць прыстасаванні для ачысткі вады жыхарам. Прадаўцы карыстаюцца даверам. Самі фільтры нятанныя, а іх абслугоўванне таксама пастаянна патрабуе ўкладання грошай.

**Галоўны інжынер адзначыў, што работнікі водаканала заўсёды ходзяць з пасведчаннем. Але яны ніколі не будуць рэкламаваць ці прадаваць фільтры.**

Больш за тое, у гэтых прыборах спецыяліст не бачыць патрэбы:

– У Вілейскім раёне вада чыстая, і ў фільтрах патрэбы няма. Гэта нават шкодна. Таму што ў вадзе павінны ўтрымлівацца мікраэлементы, солі. А фільтры пазбаўляюць ад іх. Я п'ю ваду толькі з-пад крана.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**






Рыгор Мяжуеў. Героям аршанскай перамогі.

## У Плябані працуе выстава Рыгора Мяжуева

МАЛАДЗЕЧНА

23 жніўня ў Цэнтры традыцыйнай культуры і побыту ў вёсцы Плябань адкрылі выставу прац Рыгора Мяжуева.

Нарадзіўся мастак 11 сакавіка 1957 года ў вёсцы Паддубцы Віцебскай вобласці. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута ( 1985).

У мастацкіх выставах удзельнічае з 1996 года. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Працуе ў тэхніцы акварэлі, жывапісу, змешанай. Выкладае ў гімназіі-каледжы мастацтваў у Маладзечне. Творы знаходзяцца ў калекцыі Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

«Не пагарджаць сваім мінулым» – гэтыя словы сталі лейтматывам выставы Рыгора Мяжуева «Спакон вякоў». Акварэльныя пейзажы і нацюрморты захоўваюць у сабе прыклад бездакорнага майстэрства. У іх выразна прасочваецца сувязь часоў-вобраз мінулага, як бы застылага ў часе, заўважанага з настальгічным адценнем з сённяшняга часу. Стрыманыя адценні гэтых работ працятыя пяшчотай да роднай зямлі, лірычным сумам і сыноўняй любоўю.

Майстар дэманструе разнастайнасць мастацкіх прыёмаў і стылістычную пэўнасць. Самабытнасць тут непадзельна суседнічае з вернасцю традыцыям беларускага акварэльнага жывапісу.

Выстава працуе да канца верасня.

**Ала ЛІХТАРОВІЧ,**
**Цэнтр традыцыйнай культуры і побыту вёскі Плябань.**

## Абласныя «Дажынкі» ў Мядзеле пройдуць 29 верасня. Што да іх плануюць адкрыць

МЯДЗЕЛ

Па словах старшыні Мядзельскага раённага Савета дэпутатаў **Алега Бароўкі**, праведзеная значная работа.

Рэканструяваная плошча Леніна. Якасна новы выгляд набудзе летні амфітэатр. Добраўпарадкаваны пляж і зона адпачынку на беразе возера Мястра. На васьмі аб'ектах жылфонду правялі капрамонт, яшчэ на больш чым 30 – бягучы.

Адрамантаваныя будынкі ўстаноў адукацыі і культуры, мясцовых «Белтэлекама» і вузла паштовай сувязі. Вялікая ўвага надавалася добраўпарадкаванню дваровых тэрыторый. Абласныя «Дажынкі» Мядзел прыме ўжо 29 верасня.

**Паводле сайта Мінаблвыканкама.**

## Ад 15 верасня адкрываюць паляванне на гусей

Ад 15 верасня ў арандаваных паляўнічых угоддзях адкрываюць паляванне на гусей белалобых, гусей-гуменнікаў, гусей шэрых і казарку канадскую.

Паляванне дазваляюць у светлы час сутак, з засады, з падыходу, з пад'езду з ужываннем маламерных суднаў (без рухавікоў або з непрацуючымі рухавікамі). Пры гэтым выкарыстоўваць дазваляецца толькі гладкаствольную паляўнічую зброю і патроны, начыненыя шротам.

На гусей і казарку канадскую можна хадзіць з паляўнічымі сабакамі ўсіх груп, акрамя ганчакоў і хартоў. Дапускаюць безружжайнае паляванне з выкарыстаннем лоўчых птушак. Можна здабываць толькі тыя віды птушак, якія ўказаныя ў паляўнічай пуцёўцы.

Акрамя таго, пры любым законным знаходжанні ў паляўнічых угоддзях дазваляецца здабыча ваўка, лісіцы, янотападобнага сабакі, шэрай вароны, сарокі з выкарыстаннем спосабаў і прылад, дазволеных для палявання на жывёл, указаных у пуцёўцы.

Здабыча дзікай жывёлы, не аднесенай да паляўнічай, або паляўнічай жывёлы, не названай у пуцёўцы (апрача ваўка, лісіцы, янотападобнага сабакі, шэрай вароны і сарокі), з'яўляецца незаконнай і цягне адміністрацыйную або крымінальную адказнасць, у залежнасці ад нанесенай шкоды навакольнаму асяроддзю, а таксама абавязак пакрыцця шкоды парушальнікам шкоды.

**Мядзельская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслліннага асяроддзя.**



Вяселле 15 верасня 1963 года.

# Сціплае вяселле і 55 год сямейнага жыцця

## Да ізумруднага юбілею сям'і Хацяловічаў

МАЛАДЗЕЧНА

**15 верасня мае бабуля і дзядуля святкуюць 55 год сямейнага жыцця.**

**Раман Браніслававіч** і **Марыя Іванаўна Хацяловічы** зараз жывуць у вёсцы Вязынь Вілейскага раёна, але шлях іх сям'і пачаўся ў Маладзечне.

**Сціплае вяселле адсвяткавалі ў найманым пакоі ў доме на вуліцы, якая цяпер носіць назву Велікасельскай. Маладыя тады працавалі на Маладзечанскай мэблевай фабрыцы, дзе і сустрэліся.**




Сям'я на святкаванні залатога вяселля 15 верасня 2013 года.

Абое прыехалі ў абласны тады горад з розных куткоў Маладзечанскай вобласці ў канцы 1950-х (вобласць скасуюць у 1960-м). Дзядуля родам з Глыбоччыны, са знакамітай зараз вёскі Мосар, а бабуля з Вязыні.

Вялікае Сяло тады яшчэ не было ў складзе горада, але аўтобусны рух злучаў гэту вёску з цэнтрам Маладзечна. Рух быў нерэгулярны, і, як скардзіліся жыхары горада, цэны на праезд фарміраваліся незразумелым чынам.

Так, напрыклад, у 1958 годзе ў лісце ў газету «Сцяг Кастрычніка» грамадзяне скардзіліся, што кошт праезду з Вялікага Сяла ў Гелянова, дзе размяшчалася новая мэблевая фабрыка, каштуе 50 капеек, а зваротны шлях з Гелянова ў Вялікае Сяло ўжо цэлы рубель. Аўтобусны парк тады не мог патлумачыць гэтага дысбалансу. Гэтым маршрутам доўгі час ездзілі і мае бабуля з дзядулем, да таго моманту, пакуль не атрымалі кватэру на вуліцы Маўчанскага ўжо ў непасрэднай блізкасці ад працы.

Сама фабрыка, якая пачала працаваць пасля вайны, месцілася на тэрыторыі былога польскага вайсковага гарнізона, што дзейнічаў у Гелянове да 1939 года.

Тэрытарыяльна новая фабрыка, па ўспамінах дзядулі, была на месцы палкавых канюшняў. Пры пабудове новага цэха фабрыкі рабочым прыйшлося разбіваць магутныя бетонныя паілкі для коней.

**З такіх расповедаў дзеда і пачалася асабіста мая цікавасць да гісторыі горада, якая вырасла ў шэраг краязнаўчых даследаванняў.**

**Уладзімір САДОЎСКІ,**
**Маладзечна.**
**Фота забяспечаныя аўтарам.**

# «Людзі пачварныя, якія прыносяць толькі страту»

## Што пісала смаргонская раённая газета пра дармаедаў у 1960-х гадах

СМАРГОНЬ

**Прапаную чытачам пазнаёміцца з матэрыяламі смаргонскай раёнкі 1960-х, дзе аўтары бязлітасна выкрывалі «дармаедаў».**



Маеш чатырох кароў? Значыць, дармаед з дармаедаў.

«Трутням не месца сярод нас» – так называлася публікацыя аўтара В. Святлова, змешчаная ў газеце «Перамога» ад 1 чэрвеня 1961 года:

### Міліцыя, суд і пракуратура правялі «вечар»

«Гарадскі Савет сумесна з пракуратурай, судом і міліцыяй правёў на мінулым тыдні вечар. Мэта вечара – растлумачыць новыя законы аб барацьбе з п'янствам і дармаедствам.

З дакладам «Барацьба супраць дармаедства і п'янства – барацьба за высокую арганізацыю працы» выступіў начальнік аддзела міліцыі т. **Лазерка**. Дакладчык расказаў і на канкрэтных прыкладах паказаў слаўныя справы працаўнікоў горада і вёскі, якія сваёй працай ствараюць багацце нашай Радзімы і ўносяць дастойны ўклад у датэрміновае выкананне сямігодкі. Тав. Лазерка назваў і імёны тых, хто вядзе паразітычны лад жыцця, п'яніц **Сяргея Карэянскага**, **Пятра Еўсеенкі**, **Мікалая Бяляева**, самагоншчыкаў **Вольгі Сінкевіч**, **Зінаіды Родзька**, дармаедаў **Вікенція Янчуковіча**, **Пятра Альхімовіча**, **Часлава Курчэўскага** і іншых.

На вечары выступіў народны суддзя **Маёраў**. Ён зачытаў указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Выступілі пракурор раёна т. **Комлеў**, пенсіянер т. **Балыш**.

Прысутныя аднадушна адобрылі новыя ўказы і папярэдзілі ўсіх тых, хто яшчэ недастойна вядзе сябе ў грамадстве».

### Дармаедка – «кроў з малаком», што даглядае ўласную гаспадарку

Пра вішнеўскіх дармаедаў у гэтым жа нумары піша А. Краўцоў:

«**Юзэфа Цыбоўская** – маладая дзяўчына, як кажуць, кроў з малаком. Ёй бы паказваць прыклад у працы іншым. Але дзе там! Юзэфа сядзіць дома, даглядае ўласную гаспадарку.

– Не для таго я хадзіла дзесяць гадоў у школу, – гаворыць яна, – каб зараз працаваць у калгасе.

Што і казаць, дзіўнае разважанне!

Не жадае працаваць на калгасных палетках і яе брат **Станіслаў**. Сумесна з сястрой яны займаюцца спекуляцыяй. Не так даўно іх затрымалі ў вёсцы Галоднічы з 11 кілаграмамі драждзэй, якія хацелі прапрадаць. Таварыскі суд разгледзеў іх справу. Спекулянты атрымалі па заслугах, але вывады для сябе не зрабілі. Юзэфа і Станіслаў Цыбоўскія па-ранейшаму не жадаюць працаваць у калгасе.

Дружна працуюць хлебаробы сельгасарцелі імя ХХ партз'езда. А Юзэфа і Станіслаў шукаюць лёгкіх шляхоў».

### Пра караедаў-дармаедаў

Працягваецца тэма ў нумары за 3 чэрвеня 1961 года матэрыялам «Грош цана такім людзям». В. Калюк піша:

«Воддаль ад вёскі Падбярозы Сольскага сельсавета, акружанай дрэвамі, стаіць асабняк. Хата як хата, нічога займдроснага. І гаспадары яе – калгаснікі сельскагаспадарчай арцелі імя Кірава – нічым знешне не адрозніваюцца ад іншых людзей.

– А што тут, калгаснік пілярама ўстаноўлена? – такое пытанне задае кожны, хто ўпершыню трапляе да гэтага дома.

– Ніякай рамы няма, – адказваюць суседзі. – Жыве ў гэтай хаце **Якім Ігнатавіч Шумкоўскі**, а ён – вельмі «любіць» лес.

Сапраўды, ля дома Шумкоўскага больш лесу, чым на калгасным будаўнічым двары. Тут і дошкі розных гатункаў, і дрэва, і жэрдкі, і г.д. Адкуль жа ўзялося такое багацце? Справа ў тым, што Шумкоўскі працуе калгасным леснікам.

Выкарыстоўваючы такую пасаду, ён, як кажуць, запасаецца. Да сваёй хаты ляснік навазіў столькі лесу, што яго ўпаўне хопіць на добрую даміну. Але гэта не ўсё. Ляснік «забыўся», што недалёка ад возера ляжыць яшчэ немалая колькасць нарэзанага ім лесу.

Як жа крадзе Шумкоўскі? Выпісаў, скажам, калгаснік кубаметр-другі лесу і накіравалі яго да лесніка. А Шумкоўскі так абмерае драўніну, што і сучок палічыць за будаўнічы матэрыял. Так ён робіць незнаёмым. Затое сваім сябрам або родзічам ляснік намерае колькі трэба.

Многія хлебаробы скардзіліся на Шумкоўскага. Але не звяртаюць на гэтага караеда-дармаеда ўвагі ні праўленне калгаса, ні сельскі Савет. Лесніку ўсё з рук сыходзіць.

> Дармаеды бываюць розныя. Адны жывуць (маладзейшыя) з бацькоўскага мазаля, другія вылоўліваюць неабходны кавалачак з дапамогай спекуляцыі, трэція (накшталт Шумкоўскага) выкарыстоўваюць службовае становішча. А ёсць і такія, што жывуць за кошт крыніц, вядомых толькі ім.

Да такога тыпу адносіцца калгаснік гэтай жа арцелі **Міхаіл Іосіфавіч Сташкевіч** з вёскі Дэгісі. У адрозненне ад Шумкоўскага гэты нідзе не працуе. Яму, бачыце, падавай кіруючую пасаду. Больш за ўсё па душы Сташкевічу быць палявым вартаўніком. Тут прыволле: навокал зеляніна, духмяны пах кветак. Пад уражаннем гэтага любіць Сташкевіч заззірнуць у бутэльку. І тады ён прыглядаецца, чыя карова хвастом жыта закранула, каб забраць яе, а затым сарваць з гаспадара магарыч. І бывае, што Сташкевіч за дзень так нахлябаецца сівухі, што пасля не памятае, куды ідзе.

Добра ведаюць у Сольскім сельсавеце **Тэлесфора Тышко** з Кудзішак. Гэта дармаед з дармаедаў. У яго тры дамы, на два ёсць лесу, і, да таго ж, чатыры каровы. Ні сам гаспадар, ні яго жонка **Марыя Пятроўна** працаваць нават не думаюць. Між тым, яны карыстаюцца ўсімі выгодамі ў калгасе.

Якую карысць прыносяць чалавецтву гэтыя людзі? Прама скажам, ніякай. Дармаеды прысвойваюць сабе ўсё, што дрэнна ляжыць, абкрадаюць грамадства. Узамен жа яны нічога не даюць.

> Дармаеды – гэта людзі пачварныя, яны прыносяць толькі страту. Новы Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР прымушае задумацца тых, хто не працуе, а есць», – піша аўтар Калюк.

Падрыхтаваў
Вадзім ПРАЎРАЦКІ,
Мядзел.

● КАЛЯНДАР

**16 ВЕРАСНЯ**

**80 гадоў** з дня нараджэння **Віктара Дашука** (1938), кінарэжысёра, сцэнарыста, аператара, журналіста, народнага артыста Беларусі. Па яго ўласных сцэнарыях знята больш за 80 твораў (у т.л. восстралзабадненўныя дакументальныя фільмы «Ночь длинных ножей», «Репортаж из клетки для кроликов»). Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1977). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985, за цыклы фільмаў «Я з вогненнай вёскі» і «У войны не женское лицо»), першай прэміі на ўсесаюзных кінафестывалях у Фрунзэ (цяпер Бішкек), Кіеве, Таліне, Любліне; ганаровага дыплома журы 42-га Міжнароднага кінафестывалю ў Кракаве (2003), прыза «Срэбны голуб» на Міжнародным фэсце ў Лейпцыгу (1984, за фільм «Я встретил вас»).

**1870.** Нарадзіўся **Язэп Васілевіч** (Крывічы, цяпер Мядзельскі раён), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, археолаг, педагог. Адзін са стваральнікаў і ў 1917 – 1919 гадах дырэктар Будслаўскай беларускай гімназіі. Загінуў ва Уфе (Башкірыя) у 1934 (?) годзе, куды быў высланы ў 1931-м. Рэпрэсаваны.

**17 ВЕРАСНЯ**

**1912.** Нарадзіўся **Максім Танк** (сапраўднае Яўген Скурко, вёска Пількаўшчына, цяпер Мядзельскі раён), паэт, грамадскі дзеяч, класік беларускай літаратуры. Пражыў 82 гады.

**18 ВЕРАСНЯ**

**105 гадоў** з дня нараджэння **Леаніда Валчэцкага** (1913 – 1991), беларускага тэатральнага дзеяча, заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Нарадзіўся ў Даўгінаве. Скончыў Мінскі педтэхнікум, тэатральную студыю пры Беларускім дзяржаўным тэатры ў Віцебску. Аўтар кнігі «Гады, спектаклі, ролі…» (1974), артыкулаў па праблемах тэатра.

**19 ВЕРАСНЯ**

**1943. 75 гадоў** з пачатку аперацыі «Канцэрт», другога этапу «рэйкавай вайны» партызан Беларусі на чыгуначных камунікацыях нямецкіх узброеных сіл.

**20 ВЕРАСНЯ**

**115 гадоў** з дня нараджэння **Наталлі Арсенневай** (1903 – 1997), беларускай паэтэсы, перакладчыцы, драматурга, лібрэтыста.

**75 гадоў** з дня нараджэння **Ніны Мацяш** (1943 – 2008), беларускай паэтэсы, перакладчыцы, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

Марыя БЕРАСНЕВА.

● ПРЫВІТАННЕ З В'ЕТНАМА

# «Дарогі – проста жах!»

## Маладзечанка расказала пра першае ўражанне ад В'етнама

МАЛАДЗЕЧНА

**У папярэднім нумары мы расказалі, чаму Ганна Мажуць трапіла ў В'етнам і як вырашыла цалкам змяніць жыццё. Прадоўжым серыю публікацый і падзелімся першымі ўражаннямі дзяўчыны ад гэтай авантуры.**

Яшчэ да прылёту дзяўчына зразумела – лёгка не будзе. За працоўную візу адказваў наймальнік, таму загадзя Ганна яе не рабіла. Ведала, па прылёце атрымае ў аэрапорце. Каб зрабіць гэта ў В'етнаме, патрэбны пацвярджальны ліст ад дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі. Яны дазваляюць прыехаць у краіну для працы.

### Насілася па аэрапорце з чамаданамі

Ганне здалося, што в'етнамцы – людзі неарганізаваныя. Бегала па аэрапорце і шукала, дзе раздрукаваць дакументы. Наймальнік прыслаў іх занадта позна, а з тэлефона прымаць не хацелі.

«В'етнамцы, думала, не разумеюць слова «своечасова». Робяць, калі ім зручна. Праклінала і AISEC, і В'етнам, пакуль насілася з чамаданамі».

Нарэшце, дзяўчына прызямлілася ў паўночнай сталіцы В'етнама – Ханоі. А там – прыкладна плюс сорак. Беларусь пакідала ў лістападзе, кажа Ганна, ужо снег ляжаў.

Яе сустрэла супрацоўніца AISEC, якая не ведала, як на аўтобусе даехаць ад аэрапорта да цэнтра горада. Тым больш, ад пэўнай станцыі ў цэнтры да Хайфона, у якім Ганна збіралася працаваць.

Перш за ўсё па прыездзе дзяўчыне далі жыллё і аўтаматычны байк «Ямаха». Навучылі на ім ездзіць. Гэта аказалася і простай, і страшнай справай. Правы яна не атрымлівала.

### «Паўкраіны ездзіць без правоў»

– Транспарт у В'етнаме – жудасная рэч, у Беларусі значна лепшы. Паўкраіны ездзіць без правоў. Байкаў больш, чым машын, у шэсць-сем разоў. Мець аўто нязручна, дзяржнумар дарагі. Машына і абслугоўванне таксама. Астатнія людзі або на старых роварах ездзяць, або пешшу. Прычым у веласіпедаў няма ліхтароў, людзі не паказваюць, куды паварочваюць. Ці паказваюць, але едуць прама.

Па словах Ганны, штодзень памірае прыкладна пяцьдзясят байкераў. Яны не выконваюць элементарныя правілы бяспекі. Вялікі штраф можна атрымаць за язду без шлема. І за выключаныя ўвечары фары. Могуць нават адабраць транспарт. Але парушаюць амаль усе.

– Адчуванне, што правілаў няма ўвогуле. У іх існуе некалькі глабальных правілаў. Напрыклад, чый транспарт большы, той і галоўны на дарозе. Калі едзе па сустрэчнай грузавік, трэба саступіць. Едзеш – глядзі наперад. Твая праблема знаходзіцца там. Што ззаду, павінна хваляваць таго, хто за табой. Таму в'етнамцы часта не глядзяць у люстэрка задняга віду.

### В'етнамцы пастаянна сігналяць

Нават калі набліжаюцца да павароту і не бачаць нікога, в'етнамцы будуць сігналіць. Робяць гэта не таму, каб нехта сышоў з дарогі, а папярэджваюць: «я еду тут». Нават калі чалавек цябе не бачыць, пачуе.

Пры арэндзе байка трэба правяраць клаксон і фары. У Ганны першы не працаваў.

– Вялікая праблема – стаць на дарозе. Калі нешта здарылася з байкам, адразу пачынаюць свістаць, сігналіць з усіх бакоў. А вось да жанчын за рулём адносяцца роўна. Іх дзеці ў школу ездзяць на мапедах. І гэта страшна. Здаецца, водзяць усе аднолькава не па правілах.

Дарога ў В'етнаме адна, падзеленая на дзве паласы для машын і вялікую трасу для двух-трох байкаў адначасова. Байкер заязджаць на іншую паласу не можа. Гэта тычыцца дарог, па якіх ездзяць грузавікі.

На астатніх кіроўцы едуць разам. За рулём машыны трэба заўсёды сігналіць падчас руху, каб байкеры расступаліся.

Першы час Ганна вельмі хвалявалася. Тыдзень на працу яе вазілі, потым паспрабавала сама. Чэхі Тэрэза і Джон, з якімі пасялілі дзяўчыну, паказалі ёй дарогу да школ. Ганна працавала адразу ў трох, у розных частках Хайфона, ездзіць даводзілася шмат.

– Чэхі дапамагалі, тлумачылі, чакалі, калі я паварочвала. Запамінала дарогу, бо арыенціраў не было. Лічыла, колькі мастоў трэба праехаць…

### Аўтобусы не стаяць на прыпынках

Аўтобусы ў В'етнаме не спыняюцца, каб пастаяць на прыпынках. Зніжаюць хуткасць, адкрываюць дзверы, затрымліваюцца на пару секундаў. Спецыяльнай паласы для аўтобусаў няма. Мала прыпынкаў, дзе ёсць дах.

– У Піцеры таксама ёсць такія прыпынкі. Вісіць нейкі значок, заўважыў яго – адгадаў прыпынак, – параўноўвае Ганна. – Ведаеце, як яны дарогу пераходзяць? Я пераходзіла і малілася кожны раз. Ніхто не прапускае. Пешаходных пераходаў амаль няма. Галоўнае – ісці павольна, каб цябе аб'ехалі.

Прастору ад будынка да дарогі займаюць шматлікія кафетэрыі. Тэрасы там не будуюць. Ставяць на вуліцы стол і крэсла – і гэта кафэ. Яшчэ там могуць паркавацца байкі.

Усе гэтыя кафетэрыі не працуюць у абед ад 12 да 16 гадзін, асабліва ў маленькіх гарадах. Зачыняюцца і крамы на ўскраінах – у в'етнамцаў перапынак на сон.




Спальны раён, дзе жыве Ганна. Прукса Таўн Ан Дзон, Хайфон.



Вадаспад ля храма Ва Банг.

### Хто прыбірае горад

Смецце ў Хайфоне збірае не машына, а жанчына з вялізнай зялёнай каляскай. Яго збіраюць увечары ў пакеты, выстаўляюць бліжэй да дарогі. Прыбіральшчыца збірае смецце з абочын і штурхае каляску рукамі. Ідзе па бакавой паласе.

Тое, што не выставілі, паляць. Хто заўгодна проста перад парогам можа развесці вогнішча, і ніхто за гэта не штрафуе.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота забяспечаныя Ганнай МАЖУЦЬ.**

*Працяг чытайце ў наступных нумарах.*




Байк Ганны «Ямаха».

# Кнігу выдаў дзякуючы сынам і жонцы

## Кампазітар і выкладчык Маладзечанскага музкаледжа імя Агінскага – пра паэзію, музыку, сям'ю

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі ў адным са сталічных выдавецтваў выйшла кніга «Ружа край дубровы» выкладчыка Маладзечанскага музкаледжа імя Агінскага кампазітара Леаніда Алейніка. Пад вокладкай, упрыгожанай вышыванкай, – 20 песень кампазітара на словы розных паэтаў.**




У гэтым кабінеце Леанід Алейнік працуе ад 1980 года. Псіхолагам, якія кажуць, што працу трэба мяняць раз на некалькі год, не верыць.

### «Не ведаю, колькі каштавала выданне кнігі»

Паэты розныя – Агнія Барто, Максім Багдановіч, Андрэй Дзяменцьеў, Іаган Вольфганг Гётэ.

– Паэзіяй захапляўся заўсёды. Чытаў «Літаратурную газету», «Огонек», – распавядае выкладчык.

У каледжы Леанід Алейнік працуе ад 1980 года. Супрацоўнічае з мастацкімі калектывамі. Шмат песень стварэў для іх. Вырашыў сабраць усё зробленае. А сыны настоялі, каб выдаў кнігу. І нават матэрыяльна да гэтай справы далучыліся.

Сыноў у Алейнікаў трое. Музыкантамі, як бацькі, яны не сталі. Аднак усе скончылі музычную школу пры каледжы. Жонка Леаніда – **Галіна** – таксама музыкант. Муж выкладае баян і акардэон, яна – тэорыю музыкі.

Галіна са свайго боку далучылася да выдання кнігі. Некалькі разоў вычытвала матэрыял. Правіла ўсе коскі, ноты. Сам аўтар, па яго словах, ленаваўся гэта рабіць.

### Сыны музыкантамі не сталі, але музыку любяць

– Мы з жонкай не навязвалі сынам выбар прафесіі, – кажа Леанід Алейнік. – Старэйшы, **Віталь**, скончыў Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных зносін, вучыўся таксама ў Варшаве і Кракаве, дыпломную працу абараняў у Мілане. Доўгі час працаваў у Маскве менеджарам у банкаўскай сферы. Цяпер вярнуўся на радзіму.

Сярэдні, **Юры,** скончыў Вышэйшую эканамічную школу ў Маскве. Малодшы, **Мікалай,** пачынаў вучыцца ў Вільні ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, аднак выйграў конкурс Дома дружбы ў Мінску і паехаў вывучаць юрыспрудэнцыю ў Маскву.

Хоць ні адзін з сыноў не стаў музыкантам, музыку любяць усе.

Разам ездзяць на фестывалі беларускай музыкі. Юры дапамагае музыкантам ладзіць канцэрты, добра знаёмы з беларускімі музыкантамі.

– Мы з жонкай ганарымся сваімі сынамі, – прызнаецца мой субяседнік. – Нездарма ўсё жыццё прысвяцілі таму, што далі дзецям адукацыю ў прэстыжных ВНУ. Цешыць бацьку і тое, што браты сябруюць паміж сабой і што яны – сапраўдныя патрыёты Беларусі.

Сам Леанід Алейнік страціў брата ў 1981 годзе. Ён вучыўся ў інстытуце замежных моў. Тады лепшых студэнтаў узнагародзілі палётам у Ленінград. Самалёт загарэўся. Выжылі толькі нямногія з тых, хто быў у хваставой частцы. Брат Леаніда загінуў.

### Любоў да музыкі – ад бацькоў

Бацькі будучага музыканта паходзілі з вёскі Бродня на Барысаўшчыне. У 1955 годзе вяскоўцаў сталі высяляць, бо на месцы вёскі будавалі палігон для танкаў у Печах. Каб запоўніць паперы на высяленне, трэба было ехаць у Маскву. Бацька Леаніда **Мікалай Алейнік** паехаў туды і за ўсіх вяскоўцаў запоўніў паперы, бо ён быў адзін з нямногіх, хто ўмеў добра чытаць і пісаць. Так сям'я апынулася ў Жодзіне, дзе праз год нарадзіўся Леанід.

Бацькі майго субяседніка вельмі любілі музыку. Бацька добра спяваў, падчас службы ў войску іграў на мандаліне.

А маці **Любоў** так любіла музыку, што маладой дзяўчынай нават набыла гармонік і сама навучылася іграць.

– Грошай у вяскоўцаў не было, з натуральнай гаспадаркі жылі, – расказвае Леанід. – Дык маці, каб на гармонік грошай сабраць, хадзіла ў лес, збірала ягады і грыбы, а пасля за 16 кіламетраў насіла іх у Барысаў прадаваць. Набыла тульскі гармонік, па слыху навучылася іграць. .

### «Купім новы ровар, толькі вучыся»

Да гармоніка сын пачаў дакранацца ў гады чатыры. Мама, напяваючы, паказвала тое-сёе. Праз пару год дзеці-аднагодкі ўжо крычалі пад акном: «Лёня, пайграй!».

У год сем-восем бацькі аддалі сына ў музычную школу. Ездзіць трэба было кіламетраў каля шасці. Набылі ровар. Аднак неяк падчас заняткаў яго скралі. Хлопчык баяўся вяртацца дамоў, быў гатовы, што бацькі пачнуць лаяцца з-за ровара. Але яны сказалі: купім новы, ты толькі вучыся. Так разам з васьмю класамі ў звычайнай школе Леанід скончыў і музычную ў педагога **Анатоля Анохіна**.

– Прыйшоў час прафесію абіраць. Выкладчык з музычнай школы раіў паступаць у музвучылішча. Казаў «інжынераў пад кожным плотам хапае, а добрых музыкаў няма», – прыгадвае Леанід.

А дырэктар школы хацеў, каб вучань ішоў у дзявяты клас, бо вучыўся «на выдатна», нават дакументы адразу не аддаваў.

### Ажаніўся з самай прыгожай студэнткай Маладзечанскага музвучылішча

Пра вучобу ў Мінскім музвучылішчы, а пасля у кансерваторыі ў Леаніда Алейніка засталіся яркія ўспаміны. Тады займацца музыкай было прэстыжна, кажа ён. Недалёка ад музвучылішча была кавярня, дзе ладзілі вяселлі. У вучылішчы замаўлялі музыкантаў. Навучэнцы вялі спіс, трэба было доўга чакаць сваёй чаргі, каб у нейкую суботу пайграць на вяселлі і крыху падзарабіць.

У кансерваторыі Леанід быў камандзірам студэнцкага атрада. Будучыя музыканты ездзілі працаваць у Карэлію:

**– Ведаеце, што рабілі піяністы і струннікі? Лазілі па слупах і цягнулі лінію электраперадач. Карэлія запомнілася белымі начамі, азёрамі, рыбалкай.**

Калі ў 1980 годзе Леанід Алейнік скончыў кансерваторыю, прапаноўвалі працу ў абласных цэнтрах, але выпускнік абраў Маладзечна. І з Мінскам побач, а там – і да бацькоў у Жодзіна недалёка.

У Маладзечанскім музвучылішчы пазнаёміўся са студэнткай чацвертага курса Галінай. Праз год згулялі вяселле. «Жонка самай прыгожай студэнткай у вучылішчы была», кажа Леанід.

За шмат гадоў працы склаліся прыязныя адносіны ў калектыве. Амаль 40 год Леанід працуе пад кіраўніцтвам Рыгора Сарокі. Лічыць яго высокім прафесіяналам, чалавекам, які шмат зрабіў для каледжа. Прыемна тое, што і дырэктар, і яго намеснікі любяць беларускую мову і культуру.

Адно засмучае кампазітара. Моладзь сёння так любіць музыку, а прафесійную музычную адукацыю атрымліваць не хоча. З цяжкасцю сёння набіраюць навучэнцаў на некаторыя аддзяленні ў музкаледж. Чаму?

Леанід мяркуе, магчыма, з-за таго, што вучоба музыцы – напружаная праца. Ды і інструменты каштуюць дорага. Для многіх, лепш машыну набыць.

І ўсё ж музыкант перакананы: прыйдзе час, народ трохі пабагацее, зажыве лепш – і, нарэшце, павернецца да прыгажага: мастацтва, музыкі, літаратуры.

Леанід Алейнік аб'ездзіў амаль усе краіны ў Еўропе. Заўважыў, што там пры заможным жыцці людзі не адмаўляюцца ад духоўнага.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА



Фота Сяргея ПЛЮТО.

**Момант гульні «Смаргоні» і «Лакаматыва».**

## «Чысць» правaліла гульню «Энергетыку-БДУ»

МАЛАДЗЕЧНА

У гульні 21 тура «Чысць» атрымала рэдкую паразу. Каманда прапусціла сем галоў і не забіла ніводнага ў адказ.

Дамашняя гульня з мінскім «Энергетыкам-БДУ» выйшла разгромнай для гаспадароў. Па выніках тура «Чысць» застаецца на апошнім, 15-м, радку турнірнай табліцы і адстае ад «Баранавічаў» на чатыры ачкі.

## Смаргонцы згулялі роўна

СМАРГОНЬ

У розыгрышы 21 тура «Мядзведзі» паказалі вынік 1:1. Гомельскі «Лакаматыў» прыехаў на смаргонскі стадыён.

Па выніках тура «Мядзведзі» займаюць дзявяты радок турнірнай табліцы, на два радкі вышэй размяшчаецца «Лакаматыў».

**Аддзел інфармацыі.**

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Ашмяны» абыгралі «Энергетык-БДАТУ»

АШМЯНЫ

Пазітыўны вынік розыгрышу 21 тура атрымала ашмянская каманда.

На гульні ў гасцях у мінскага «Энергетыка-БДАТУ» каманда забіла чатыры мячы. Гаспадары не змаглі адказаць нічым.

Галы на рахунку **Аляксандра Малецiна**, **Дзмітрыя Купнеўскага**, **Аляксея Скварчэўскага** і **Антона Андрэева**.

Каманда займае трэці радок турнірнай табліцы.

## «Маладзечна» прайграла «Спадарожніку»

МАЛАДЗЕЧНА

У госці да рэчыцкай каманды ездзілі маладзечанцы для розыгрышу 21 тура.

Адзіны гол забілі ў вароты гасцей. Маладзечанцы адказаць не змаглі. Каманда займае 11-ы радок турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Рух (Брест) | 20 | 18 | 2 | 0 | 73-10 | 56 |
| 2 | НФК Крумкачы (Минск) | 20 | 17 | 2 | 1 | 62-10 | 53 |
| 3 | Ошмяны-БГУФК | 20 | 13 | 1 | 6 | 57-25 | 40 |
| 4 | Спутник (Речица) | 20 | 12 | 2 | 6 | 43-18 | 38 |
| 5 | Узда | 18 | 10 | 3 | 5 | 45-28 | 33 |
| 6 | Осиповичи | 20 | 9 | 5 | 6 | 41-25 | 32 |
| 7 | Ивацевичи | 19 | 8 | 5 | 6 | 28-28 | 29 |
| 8 | СМИавтотранс (Смолевичский р-он) | 20 | 8 | 3 | 9 | 20-35 | 27 |
| 9 | Виктория (Марьина Горка) | 20 | 6 | 3 | 11 | 19-38 | 21 |
| 10 | Неман-Агро (Столбцы) | 19 | 5 | 4 | 10 | 22-58 | 19 |
| 11 | Молодечно | 20 | 4 | 6 | 10 | 30-40 | 18 |
| 12 | Энергетик-БГАТУ (Минск) | 19 | 4 | 4 | 11 | 23-43 | 16 |
| 13 | Клецк | 19 | 3 | 4 | 12 | 21-47 | 13 |
| 14 | Горки | 19 | 1 | 6 | 12 | 22-55 | 9 |
| 15 | Бумпром (Гомель) | 17 | 1 | 2 | 14 | 9-55 | 5 |

Выява football.by.

**Турнірная табліца другой лігі.**

# Маладзечанец стаў чэмпіёнам свету па боксе сярод студэнтаў

МАЛАДЗЕЧНА

**6 верасня завяршыўся чэмпіянат свету па боксе сярод студэнтаў у Элісце (Калмыкія, Расія). Чэмпіёнам свету стаў спартсмен з Маладзечна Дзмітры Асанаў.**



Фота з адкрытай старонкі Дзмітрыя Асанава ў сацыяльных сетках.

**Маладзечанец Дзмітры Асанаў вярнуўся з перамогай.**

У спаборніцтвах удзельнічала больш за сто баксёраў з 20 краін свету, паведамляе Міністэрства адукацыі Беларусі.

Усяго беларускія спартсмены атрымалі чатыры медалі – залаты, срэбны і два бронзавыя. У вазе 60 кілаграмаў золата атрымаў маладзечанец **Дзмітры Асанаў**.

Чэмпіянат свету па боксе сярод студэнтаў праходзіў ад 1 да 7 верасня на базе «Ойрат-арэны».

На старонцы чэмпіёна свету ў сацыяльных сетках шмат натхняльных запісаў. «Чалавек, што сядзіць на вяршыні гары, не зваліўся туды з неба», «Няма гарантыі перамогі, але ёсць гарантыя паразы, калі нічога не рабіць!».

**Аддзел інфармацыі.**

# Маладзечанскія бегуны – сярод пераможцаў Мінскага міжнароднага паўмарафону

МАЛАДЗЕЧНА

**Аляксандр Цімафеенка заняў першае месца ва ўзроставай групе «ад 70 год» сярод мужчын.**

Ён прабег 21,097 кіламетра за 1:57:30 на мінскім паўмарафоне 9 верасня.

Цімафеенка – трэнер бегуна **Васіля Лябецкага**, які пераадолеў дыстанцыю за 1:39:19. Лябецкі заняў другі радок ва ўзроставай групе 60-69 гадоў пасля польскага спартсмена **Тадэвуша Дзяконскага**.

– Прыемна было бегчы, абганяючы маладзейшых спартсменаў, – прызнаецца маладзечанец. – Лічу, што адзнака добрая. Але польскаму атлету прайграў. Што ж, гэта спорт, тут не месца крыўдам – значыць, ён быў больш хуткі.

Лябецкі адзначыў, што сёлета арганізацыя паўмарафону была лепшай, чым летась. Асобны старт дапамог пазбегнуць вялікага скаплення людзей.

Спадабалася маладзечанцу і тое, што дыстанцыю абралі суцэльную, а не кругавую, «а то ў тым годзе прабег круг – і яшчэ раз там жа. Суцэльна бегаць усё ж лягчэй».

**Ранішняе надвор'е прыйшлося даспадобы атлету. Тым жа, хто стартаваў па абедзе, было гарачэй.**



Фота забяспечанае Васілём ЛЯБЕЦКІМ.

**Другое месца на паўмарафоне ўзяў маладзечанец Васіль Лябецкі.**

Бадзёрасці і энергіі дадавалі балельшчыкі:

– Бабулі з плакатамі, сем'і падтрымлівалі. У каго што было напісана. «Тата, чакаем на фінішы», «Ты самы моцны», «Бяжы хутчэй за ўсіх». Гэта весяліла і дадавала сіл, – падсумоўвае бягун.

Аднак не ўсе ўдзельнікі марафону пачуваліся добра. На вачах Лябецкага адзін з удзельнікаў пачаў кідацца, пасля паваліўся – добра, што адразу ж прыбеглі з «хуткай».

– Да бегу на вялікіх дыстанцыях неабходна рыхтавацца. Хаця б раз на тыдзень пераадольваць кіламетраж большы, чым збіраешся ўзяць на спаборніцтве. Я бегаю па выхадных пад 30 кіламетраў, таму паўмарафон адолець магу. А калі хтосьці з прабежкамі ў 5-10 кіламетраў выпраўляецца на паўмарафон, то моцна рызыкуе.

У Мінскім міжнародным паўмарафоне ўдзельнічала каля 35 тысяч чалавек з 53 краін.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Жыхары аднаго плямені называюць гэту жывёлу «Жаба з накрыўкай».
3. Каго не хапае: Белы, Пчала, Філ.
4. Несумяшчальнае з лагічным мысленнем.
5. Спалучэнне фарбаў, колераў, якое стварае пэўнае адзінства ў карціне, каляровай гравюры, мазаіцы.
9. У старажытныя часы гэты харчовы дадатак цаніўся вышэй за каштоўныя металы і замяняў грошы.
11. Участак зямлі, засаджаны культурамі.
12. Тое, што прыбаўляецца.
13. Кустовая ягадная расліна сямейства ружакветных з калючымі сцёбламі.
14. Малюнак бога або святога ў выглядзе партрэта як прадмет рэлігійнага пакланення.
18. Галоўны член сказа, граматычна не залежны ад іншых членаў, характарыстыка якога даецца ў выказніку.
22. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху.
23. Дарвін лічыў гэта неабходнай умовай для натуральнага адбору. Адзін расійскі пісьменнік назваў менавіта гэта галоўнай умовай для выратавання.
24. Кавалак тканіны, якой абмотваюць ногі перш чым абуцца.
25. Казачнае пітво, якое дае маладосць і прыгажосць; жыватворны напітак.
26. Папрок, незадавальненне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Гісторыка-этнаграфічны рэгіён Беларусі, Украіны, Польшчы і Расіі.
5. Ніжняя патоўшчаная частка дрэва, расліны, якая прылягае да кораня.
6. Уладзімір Някляеў: «Аднойчы, прачнуўшыся ўночы, Ты ўспомніш, што ўмееш лятаць, І стане наіўныя вочы Халодная … смактаць».
7. Гаспадар.
8. Па меркаванні Віктара Гюго, менавіта гэта пачатак рабства.
10. Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне.
15. У 1980-я стварылі мультсерыял пра добрага троля, які ажываў пры правільных паваротах. Як яго звалі?
16. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
17. Таварыш па прафесіі, па рабоце, па вучобе.
19. Чэрчыль аднойчы заўважыў, што СССР – не … народаў, а камунальная кватэра народаў.
20. У народных павер'ях – злы або добры дух, які жыве ў кожным доме.
21. У гэтага транспартнага сродку ёсць стоп-кран.
27. Строй.
28. Абліць, абсыпаць, абвеяць.
29. Імператар у «Свяшчэннай Рымскай імперыі» і Германскай імперыі.

## Адказы на крыжаванку з №35

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Рэальнасць. 7. Вінаград. 8. Спадарожнік. 13. Замужам. 15. Язык. 17. Хрызантэма. 19. Дазатар. 22. Кара. 24. Паэт. 26. Навела. 27. Сена. 28. Нехта.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Пенальці. 3. Слон. 4. Ватсан. 5. Млосць. 6. Дзень. 9. Небасхіл. 10. Дадатак. 11. Дзюба. 12. Ядро. 14. Грыбы. 16. Нуль. 18. Дамкрат. 20. Аелі. 21. Кітай. 23. Андэрсан. 25. Тэніс. 29. Набат.

## ● ГАРАСКОП 14-20 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Спрыяльны час для рамантычных знаёмстваў, якія могуць прыўнесці ў вашу жыццё шмат новага. Казаць пра сур'ёзнасць такіх адносін пакуль рана, але калі прыкласці намаганне (а вы гэта ўмееце), то з іх можна атрымаць шмат карыснага.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы захочаце адным махам вырашыць усе справы, каб потым спакойна адпачыць. Але справіцца са штодзённай руцінай вам не ўдасца. Не адчайвайцеся, трохі пазней у вас адкрыецца новая крыніца энергіі.



**БЛІЗНЯТЫ.** У вашу жыццё імкліва ўварвецца нешта новае. Гэта можа быць і новае пачуццё, і новы від дзейнасці. Але незалежна ад таго, як вонкава будзе аформлена гэта навіна, яна прывядзе да стабілізацыі вашага становішча.



**РАК.** Бываюць моманты, калі нам менавіта не хапае для поўнага шчасця такіх рэчаў, як улада, жарсць і грошы. І ў гэтым няма нічога дрэннага. Галоўнае, не захапляцца і не перабраць.



**ЛЕЎ.** Зірніце на свет па-новаму. Вы сталі закладнікам сваіх поглядаў ці навязанага вам ладу жыцця. Каб вырвацца з замкнёнага круга, трэба спыніцца і дазволіць жыццю вывесці вас на новы ўзровень.



**ДЗЕВА.** Вы спяшаецеся ў сваім жыцці, а часу не так шмат. Вядома, можна паскараць свой бег, можна прыцягнуць на дапамогу іншых людзей, часам схітраваць. Але рана ці позна вы вычарпаеце рэсурсы, і наступіць крах. Не спрабуйце ўправіцца з усім, вызначыцеся з галоўным, і тады хопіць сіл на шчаслівае жыццё.



**ШАЛІ.** Вы чамусьці не можаце разлічваць на гасцінны іншага, і ад гэтага вам дрэнна. Але няўпэўненасць у навакольных ілюзорная. І што б вам ні здавалася, але дапамогу вы атрымаеце з боку, хоць ніяк і не чакалі яе. Ваш недавер да людзей не ідзе вам на карысць.



**СКАРПІЁН.** Клапаціцеся пра сябе не на шкоду іншым людзям, і вы пазбегнеце мноства канфліктаў і сутыкненняў інтарэсаў у гэтыя дні.



**СТРАЛЕЦ.** Ваш унутраны свет знаходзіцца на мяжы. Вонкава вы можаце выглядаць вельмі задаволенымі і раднаснымі, але ўнутры вас грызуць праблемы і няўпэўненасць. Такое становішча можа прывесці да негатыўных наступстваў. Каб зразумець сябе, вам трэба пабыць сам-насам.



**КАЗЯРОГ.** У вашым жыцці зараджаецца нейкае новае пачуццё, парыў пяшчоты і любові, які можа перарасці ў нешта большае. Адыдзіце ад жадання усё ўзяць пад свой кантроль, ад патрэбы камандаваць. І тады ў вашым жыцці з'явіцца гэта новае светлае пачуццё. Пакуль жа яму няма месца ў вашай душы.



**ВАДАЛЕЙ.** Вамі можа завалодаць маркотны стан па неабгрунтаваных прычынах, празмерная жаласць да самога сябе і канцэнтрацыя на тым, што вы страцілі і чаго не змаглі дасягнуць. Не перажывайце, хутка гэта пройдзе.



**РЫБЫ.** Вам хочацца ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Але замест таго, каб планамерна ўсё ўзводзіць, вы займаецеся актыўнай дзейнасцю, накіраванай кудысьці ў іншы бок. У выніку марнуеце сілы, не дасягаючы мэты. Перагледзьце сваю сітуацыю, свае жаданні, каб пачаць рухацца ў патрэбным накірунку.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | | 7 | | | 6 | |
| | | | | 3 | | | 1 | 5 |
| | 1 | | 2 | 5 | | 8 | | |
| 6 | 9 | | 4 | | | | | 8 |
| | | | | 9 | | | 7 | |
| 5 | 4 | | | | | 9 | | |
| | 6 | | 1 | 2 | | | 4 | |
| | | 4 | 3 | | | | 8 | |
| | 3 | 1 | | | 8 | 6 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## ● НАДВОР'Е

### 15 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 | | +14 | | +13 | | +10 | |
| | +19 | | +18 | | +19 | | +21 | |
| | 743 | ↓ 3 | 740 | ← 4 | 744 | ↘ 6 | 741 | ↗ 8 |
| Вільня | +11 | | +12 | | +10 | | +9 | |
| | +17 | | +17 | | +17 | | +20 | |
| | 750 | ↑ 1 | 746 | ↗ 2 | 751 | ↑ 6 | 745 | ↗ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 6.45
Захад 19.30
Даўжыня дня 12.55

Усход 13.33
Захад 22.21
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +4,2°С у 1977 годзе
Максімальная тэмпература +26,6°С у 1994 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,8 мм у 2002 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

● «Мне за 40, а я так і не стварыў сям'ю, таму што лічыў, што спачатку трэба ўстаць на ногі, набыць кватэру. У мяне гэта не атрымалася». Сваёй гісторыяй падзяліўся чытач «РГ». Ці варта спачатку зарабляць на сям'ю, а пасля яе ствараць? Ці залежыць шчасце сям'і ад сітуацыі ў грамадстве? Разважаем разам з нашымі героямі.



## Хочаце, каб у Маладзечне было чыста? Далучайцеся да акцыі «Зробім» і атрымлівайце падарунак!




Запрашаем разам з «Рэгіянальнай газетай» прыбраць сквер за касцёлам каля «Модуля».

Прыборку пачнём **а 12-й у суботу, 15 верасня.**

Рэдакцыя забяспечыць удзельнікаў пальчаткамі і смеццевымі пакетамі.

Пасля прыборкі запрашаем на пікнік – пачастуем удзельнікаў кавай, чаем і салодкім.

Вас чакае выступленне лідара гурта «Sumarok» **Ігара Палынскага**.

Той, хто найбольш эфектыўна будзе ўдзельнічаць у прыборцы, атрымае ў падарунак прыгожы вазон.

Збіраемся за касцёлам. Па ўсіх пытаннях звяніце на нумар: (8-033) **667-19-77.**

**Аддзел інфармацыі.**








Фота забяспечана Маладзечанскім ГРАНС.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## На якую работу вы ніколі б не ўладкаваліся?



**Аляксандр Новаш, магістрант:**

– Не хацеў бы працаваць у офісе. Нягледзячы на спецыфіку, такая праца мне не падыходзіць. Пастаяннае праседжванне ў офісе стамляе. Пакуль ты сядзіш у офісе на вечна нязручным крэсле, за сценамі цячэ жыццё. У сярэднім чалавек працуе 1/4 частку ўсяго жыцця. Вельмі б не хацеў правесці яго за бетоннымі сценамі.



**Ганна Пахтусава, педагог-арганізатар:**

– Не хацела б працаваць сацыяльным педагогам – цяжкая і няўдзячная прафесія. Штодзень даводзіцца пісаць шмат дакументаў, якія ў выніку вышэйшыя чыны проста кладуць на паліцы для справаздачы. Забываюць, што за кожным чорна-белым лістком хаваецца лёс, асоба, жыццё.



**Валерый Гарбуноў, майстар будаўніча-мантажных работ:**

– Хутчэй за ўсё, не змагу працаваць у офісе, на пасадзе якога-небудзь клерка, але гэта мая асаблівая «гісторыя». Не пераношу манатоннай працы, занадта складана гадзінамі праседжваць на адным месцы.



**Настасся Сілкіна, прадавец:**

– Прафесія, якая мне не падабаецца, – паталагаанатам. Яна патрабуе ўстойлівай псіхікі і моцных нерваў. Для мяне гэта ўсё дзіка, органы і іншае, ніколі б не пайшла працаваць паталагаанатамам.



**Арцём Русак, электраманцёр:**

– Не хацеў бы працаваць прадаўцом ці касірам. Сядзець на адным месцы і прадаваць, падаваць, штосьці прыносіць пакупніку, кансультаваць.



**Аляксандр Саковіч, часова беспрацоўны:**

– Ніколі не працаваў бы ў міліцыі. Не люблю караць людзей, кагосьці лавіць, разбірацца, хто займаецца непатрэбным. Не маё гэта. Лепш быць вайскоўцам: робіш сваю справу ў часці і нікога не чапаеш.



**Андрэй Бельскі, аператар дрэваапрацоўчага абсталявання:**

– Напэўна, доктарам не працаваў бы. Таму што заробак не акупляе той адказнасці і вымотвання нерваў, якія ёсць на гэтай рабоце.

**Падрыхтавала Тацццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№37 (1220) 14.09.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 748. Падпісана ў друк у 9.00 13.09.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.